таў прыдзецца ўвесьці „палёгкі“ ў „сухі“ закон...

— Урад афіцыяльна заявіў гэнэральнаму сэкрэтару Лігі народаў, што Амэрыка прыме ўдзел у нарадах камісіі па скліканьню канфэрэнцыі разбраеньня.

У С.С.Р.Р. Курс савецкага чырвонца ўпаў у цане на 10 прац. Прычынай гэтага зьяўляецца — „уцечка“ золата заграніцу, надта высокія, ў параўнаньні з прадукцыяй, расходы і інш.

**МАРОКО**. Глаўнае камандаваньне францускіх і гішпанскіх войскаў пастанавіла чакаць выступленьня Абд-Эль-Крыма, які ўжо шыкуецца да наступленьня.

— Абд-Эль-Крым абвесьціў „сьвяшчэнную вайну“, што можа падняць проці французаў і гішпанцаў усіх музульманаў Афрыкі.

**ГРЭЦЫЯ**. У Грэцыі адбываюцца выбары прэзыдэнта. Пакуль што большасьць галасоў (90 прац.) атрымаў дыктатар гэн. Пангалос.

**ЮГАСЛАВІЯ**. Пашыч падаў каралю просьбу аб адстаўцы кабінэту. Прычынай гэтай просьбы зьяўляецца непаразуменьне паміж сябрамі кабінэту —харватамі і сэрбамі.

**КІТАЙ**. Вокал Пэкіна разыграліся вялікія баі. У рэзультаце, па апошнім весткам, народная армія пакінула сталіцу і сьпешна адступае. Гэнэрал Чанг-Тсо-Лін абавязаўся выгнаць бальшавікоў са ўсяго Кітаю, за што яму абецана пазычка.

**ІНДЫЯ**. У Калькуце 2 сакавіка дайшло да крывавых боек паміж магамэтанамі і індусамі. Забіта 20 чалавек і ранена болей 150.

**СІРЫЯ**. Па афіцыяльным весткам у Сірыі пачалося рашучае наступленьне францускіх войскаў проці паўстанцаў-друзаў.

# У С. С. Р. Р.

### Расстрэлы ў чырвонай арміі.

У казанскім ваенным трыбунале 16 сакавіка закончылася справа аб безпарадках ў N-скам пяхотным палку. Два чырвонаармейцы засуджаны на расстрэл, 13—на шмат гадоў катаргі, а 80 чырвонаармейцаў пераведзена ў г.зв. „штрафныя“ часьці.

Штосьці за-часта пачалі здарацца розныя „безпарадкі“ ў чырвонай арміі. Псуецца нешта зусім у чырвоным царстве Троцкіх. Відаць блізіцца мамэнт расплаты. І ня толькі сярод звычайных чырвнаармейцаў здараюцца безпарадкі. Аказваецца і ў г. зв. „часьцях асобага назначэньня: ці войску Г.П.У. пачынаецца нейкі фэрмэнт. Бо вось 17 сакавіка ў першым батальёне маскоўскага Г.П.У. арыштаваны камэндант роты, 3 взводных камандзіра, *палітрук* (Але! нат ён!) і 6 чалавек з „*комуністычнага складу батальёна*“. Яны абвінавачываюцца ў тым, што падгатаўлялі аружнае выступленьне і маніліся даканаць вобыскі і арышты сярод маскоўскіх „партыйцаў“... Гэта ўжо „пачышчэ“ „безпарадкаў“ у чырвонаармейцаў. Г.П.У—сты —„сьпецы“ па часьці арыштаў і ўсё такое. Калі сярод іх зьяўляюцца гэткія імкненьні, дык справа камуніі зусім кепска стаіць. Надарэмна п. Мятла і інш. з „Грамады“ стараюцца. У „раю“ псуецца ўсё ад галавы да ног. Гэтак хутка акажацца, што яны „арыентуюцца“ на нейкі „жывы труп“.

### Перавыбары Саветаў.

Па данным на 7 сакавіка (№ 55 „Правда“) ў Расейскай Рэспубліцы закончыліся выбары ў 279 паветах і вакругох (57,3 прац. агульнага ліку іх) і 280 гарадох (50,5 прац.). Вось рэзультаты выбараў:

| Саветы, зьезды Саветаў. | прац. выбаршчыкаў. | | СКЛАД ВЫБРАНЫХ. Сябры РКП | | Камсам. | | Інтэлігэнцыя. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1924 25 | 1925 26 | 1924 25 | 1925 26 | 1924 25 | 1925 26 | 1925 | 1926 |
| Сельсаветы . . . . . . | 39,2 | 47,3 | 5,0 | 5,03 | 3,5 | 4,1 | 1,8 | 2,3 |
| Валасныя зьезды . . . . | | | 15,3 | 17,0 | 5,6 | 6,3 | 3,5 | 4, 7 |
| Валасныя іспалкомы . . . | | | 45,8 | 44,3 | 4,8 | 4,1 | 5,6 | 4,9 |
| Гар. Саветы павятовыя . . | 36,4 | 46,0 | 50,4 | 40,2 | 5,3 | 4,4 | 5,1 | 8,9 |
| Гар. Саветы губэрскія. . . | 39,5 | 48,2 | 61,5 | 54,3 | 6,2 | 4,3 | 5,1 | 5,5 |
| Паветовыя зьезды . . . . | | | 54,0 | 45,4 | 5,1 | 5,2 | 4,7 | 9,4 |
| Паветовыя іспалкомы . . . | | | 68,0 | 64,5 | 6,7 | 1,0 | 2,2 | 6,2 |
| Губэрскія зьезды . . . . | | | 70,2 | 61,3 | 2,5 | 1,9 | 1,8 | 11,5 |
| Губэрскія Іспалкомы . . . | | | 74,4 | 72,3 | 0,6 | 0,8 | 1,4 | 15,9 |

Гэтыя цыфры паказваюць перш на перш — значны ўпадак працэнту выбраных партыйцаў наагул, і павялічаньне працэнту інтэлігэнцыі, што сьведчыць аб паменшаньні ўплываў компартыі. Затым—у вёсках выбраны зусім малы працэнт партыйцаў і гэты працэнт павялічваецца толькі ў гарадах і гэткіх установах, як паветовыя і губэрскія іспалкомы і зьезды, якія выбіраюцца пераважна гарадзкім насяленьнем, а не сялянамі. Калі-ж узяць пад увагу яшчэ і нізкі працэнт выбаршчыкаў, прымаўшых вучасьце ў выбарах (меней паловы агульнага ліку), дык стане ясным, як слаба стаіць компартыя нат у цэнтральнай Расеі. Бо-ж на выбары пайшлі тыя, якія ў той ці іншай меры спачуваюць істнуючаму парадку. А не пайшлі тыя, каму гэты парадак не падабаецца. Ясна, што калі-б пайшлі *ўсе* выбаршчыкі, дык рэзультаты былі-б саўсім для партыйцаў дрэнныя, бо працэнт выбраных аказаўся-б прынамсі яшчэ ў 2 разы меншы. Значнае паменшаньне працэнту партыйцаў выбраных у гэтым годзе паказвае, што аздараўленьне ідзе хутка і, калі будзе ісьці гэткім тэмпам і далей — дык ужо праз пару гадкоў, а мо' і раней нікога з партыйцаў і саўсім ня выбяруць.

Гэткія красамоўныя доказы зьмяншэньня ўплыву компартыі варта было-б добра памятаваць нашым прыхільнікам савецкага „раю“.



# Жыцьце провінцыі.

### Вялікая несправядлівасьць.

(*в. Дунайчыцы, Нясьвіс. п.*).

У канцы 1924 і пачатку 25 г. да нас зьявілася фірма п. *Рудніцкага*, будаваць казармы на пагранічччу. Сяляне, акія знаходзіліся ў надта цяжкім матэр'яльным стане, масамі пайшлі будаваць гэныя казармы, каб зарабіць што колечы, хаця-бы на тыя непасільныя падаткі, якія трэба плаціць ўладам. Пакідалі свае зруйнаваныя гаспадаркі на дагледжаньне жонак і малых дзетак, а самі праз некалькі месяцаў шчыра працавалі на гэных казармах, праедаючы апошні кавалак хлеба і дзяручы астатнія вопраткі. Сяляне думалі, што атрымаюць абецаную плату, хоць і ня вельмі высокую, але здавальняючую пры тым безрабоцьці, ў якім яны знаходзяцца, але сталася інакш. Першыя тыдні яшчэ плацілі, а пасьля перасталі зусім плаціць, кажучы, што пры заканчэньні ўсяе работы будзе выплатка—сяляне згадзіліся і на гэта.

Але вось—работу кончылі, і ўжо наступіў другі год як ў гэных казармах жывуць жаўнеры, а платы сялянам і дагэтуль няма, ня гледзячы на тое, што гэныя пакрыўджаныя ўжо колькі разоў прабавалі шукаць справядлівасьці ў адпаведных уладаў. Зварачваліся нават да вышэйшых ўладаў, як Міністэрства Работ Публічных, але адказу і дагэтуль ня маюць, як ня маюць і грошаў. Дык вось якая браткі на сьвеце справядлівасьць: працуй, а платы ня пытайся.

Прайшло ўжо шмат часу, а мы сяляне і дагэтуль чакаем тых нашых мазалістых грошаў... Ці не пара-б — падумаць уладам аб гэтым і зьвярнуць нам належную плату.

*Работнік.*

### З царкоўнага жыцьця.

(*в. Лыскава Ваўкавыскага пав.*).

Ня ведаю, ці гэта — добра ці не, але падаю проста самы факт. Сьвяшчэннік Лыскаўскае царквы а. Радкевіч, якому абрыдла кожны раз, пры выкананьні якога-колечы царкоўнага абраду, таргавацца з прыхаджанамі, надумаў сабраць грошы адразу за ўвесь год; устанавіўшы плату—адзін злоты ад кожнае душы, а за гэта ён ўжо бяз ніякае платы, будзе і вянчаць, і хрысьціць, і спавядаць, і выдаваць мэтрыкі і г. д.

Пакуль што, толькі адна вёска Асошнікі, згадзілася на прапанову свайго пастыра. Іншыя вёскі, хаця таксама у большасьці глядзяць на справу пры-

---

Краму адчынілі і ўсе кінуліся выцягваць хто што папаў.

— Чакайце, чакайце, па парадку, крычэў заведуючы.

Есьць тут калі разьбірацца! Пакуль будзем парадку чакаць, дык усё згарыць.

Бабы перш-на-перш кінуліся за пэркалямі.

Што вы за пэркалі хапаецеся? Муку цягніце.

— Вельмі цяжка...

— Цягні тавар у адно месца, крычаў Карп, пасярод выгану складвайце, там не дастане.

— Але выбегаўшыя з крамы бабы, з потнымі чырвонымі тварамі, і са зьбіўшыміся з галоў хусткамі, з цэлымі штукамі пэркалю і іншага тавару ў руках беглі не ў адно месца, а ў розныя бакі: хто ў каноплі, хто на задворкі...

Убачыўшы, што выносяць з патрабілаўкі тавары, туды кінуліся і ўсе тыя, хто яшчэ заставаўся ля пажара. На'т Кузьняцоў кінуў свой венік з калком пасярэдзіне выгану.

— Чорт пракляты, а ты куды пабег? крычэлі на яго.

Ладна! адмахнуўся той і абедзьвама рукамі пачаў хапаць нейкія скрынкі, якія засталіся на яго долю.

— Эй! куды ў каноплі цягнеш? крычэлі на баб.

— Пэўней, не згарыць...

— Цяперака — хаця-б на заўтра назначылі праверку — не затарыцца ўжо..

Калі выратавалі ўвесь тавар і пагледзілі на месца на выгане, куды загадана было складаць тавары, дык аказалася, што там ляжалі толькі тры жалезных вядра, вязанка абаранкаў ды дзьве лапаты. Каля тавару стаяла кучка народу і глядзела на яго.

Карпуха, як камандзер на вайне, які пасьля атакі агледжывае колькі ўзялі ў палон, падбег да зложанага тавару і крыкнуў:

— Куды-ж рэшта падзелася?

— Яшчэ не данясьлі, а мо'—ў іншым месцы палажылі, каб значыцца, далей ад вагня.

А з канопляў выбягалі потныя, раскудлачаныя бабы, якія, убачыўшы што на іх глядзяць—зьмянялі бег на звычайны, спакойны крок, і на—хаду папраўлялі спадніцы, быццам яны зусім за іншай справай туды хадзілі.

— Ты адкуль? крычэў Карп, спатыкаючы кожную.

— З канопляў, ці-ж ня бачыш?

— А чаго хадзіла туды?

— Ды чаго-ж туды хадзіць...

— А тавар узяла?

— Які тавар?

— Ды з патрабілаўкі.

— Што ты здурэў? Я і ў вочы яго ня бачыла..

— Пачакаўшы знойдзем! Перш-на-перш—гэта выцягнуць—казалі ў натоўпе.

— Людзі! Кузьняцоўская хата загарэлася!..

Кінуліся да пажару, а наперадзі сам Кузьняцоў са сваімі скрынкамі за пазухай і ў руках...

— Ах, ты, каб табе чорт у пуза—крычэў Кузьняцоў, тыкаючы з адчаю багром у сьцяну сваей хаты, якая гарэла ўжо як сьвечка. Вось сабака выскачыў са сваім таварам... Як вылезла, так і ведай — нейкая штука выйдзе...

— Цяперака — пайшло! казалі ў натоўпе. — А той і запраўды — шкадлівы чалавек. Чорт яго прыцягнуў сюды...

— А патрабілаўку выратавалі? пыталіся нядаўна прыбегшыя.

— Яе няма чаго ратаваць. Тавар толькі вынясьлі.

— Шмат?

— Не. Амаль нічога ня было. Вось на выгане ляжыць нешта...

— Яго, гэтага Карпа, самога ў вагонь трэба кінуць. Таксама вось у мінулым годзе з гэтым панскім сьвірнам: добрыя грошы за яго давалі, думалі ўжо прадаць, а ён і вылез на сходзе: „Як бы, кажа, таварышы, завесы з дзьвераў не рась цягнулі; зялеза — ух якое добрае. Такое, кажа, тоўстае, старае зялеза, якога цяперака ні за якія грошы не знойдзеш“. Усе паслухалі. А на другі дзень глядзім—палловы зялеза і страхі няма. А праз тры дні, дык зусім стала чыста. Вось ён чорт які.

— Шкадлівы чалавек, што і казаць. Калі хата Кузьняцова дагарэла, ён адыйшоў, стаў на бэльку і пачаў разглядаць свае скрынкі. Адчыніў адну, другую, трэцюю, дый плюнуў: ува ўсіх дзіцячыя забаўкі ды нейкія гумовыя соскі...

— А што тавар сабралі? запытаўся нехта.

— Сабралі... І хата згарэла і патрабілаўкі няма...

— Восьжа, як завядзецца гэткі шкадлівы чалавек, дык ад яго ўсялякая бяда і йдзе...

